Багданкевіч і Карпенка з'ездзілі ў правінцыю (стар. 2)
Правы чалавека ў Беларусі. Даклад Дзяржэпартамента ЗША (стар. 3)

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 41 220
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 11 сакавіка 1997 № 26 Кошт свабодны

## Горад — наш!

*У Мінску было вывешана сто нацыянальных сцягоў*

*На здымку: адзін са сцягоў быў вывешаны на скрыжаванні праспекта Ф.Скарыны і вуліцы Варвашэні — над будынкам з рэкламай «Росбелнафта».*

У ноч з чацвярга на пятніцу невядомыя вывесілі сотню штандараў у розных раёнах сталіцы. Бел-чырвона-белыя сцягі з'явіліся над інтэрнатамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Тэхналагічнага універсітэта, на асвятляльнай мачце і флагштоках стадыёна «Дынама», над жылымі дамамі мікраёнаў Паўднёвы Захад, Малінаўка, Зялёны Луг, у іншых раёнах сталіцы. Увесь наступны дзень міліцыянты лазілі па дахах дамоў, зрываючы «крамольную» сімволіку, за выкарыстанне якой, у адпаведнасці з новым прэзідэнцкім дэкрэтам, можна атрымаць штраф у 100 мінімальных зарплат альбо сесці ў турму на 15 сутак.

Але ахоўнікі парадку былі не зусім пільнымі (або збаяліся вышыні), і нацыянальныя сцягі віселі над адным з дамоў на праспекце Скарыны ўсе выходныя дні.

У рэдакцыю СВАБОДЫ патэлефанаваў малады хлопец і паведаміў, што акцыю па развешванні сцягоў, якая насіла назву «Горад — наш!», правёў маладзёжны патрыятычны рух «Народны супраціў» у адказ на дэкрэт Лукашэнкі «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні». Акцыя была спецыяльна прымеркаваная да сустрэчы Ельцына і Лукашэнкі ў Маскве. Малады чалавек заявіў, што падобныя акцыі стануць рэгулярнымі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Бел-чырвона-белае вяселле

**Вайна ўладаў з «незарэгістраванай» нацыянальнай сімволікай набывае зусім недарэчны характар.**

Днямі ў Магілёве маладая пара гуляла вяселле. Іхняя кватэра знаходзіцца ў доме на цэнтральнай вуліцы горада Першамайскай, над крамай і ЗАГСам. Маладажоны вывесілі бел-чырвона-белы сцяг у гонар свайго сямейнага свята. Праз паўгадзіны прыбег участковы і літаральна паставіў «на вушы» краму ды ЗАГС: маўляў, вы што, з глузду з'ехалі — вывесілі забаронены сцяг. Калі ж высветлілася, што сцяг — атрыбут вяселля, гэта зусім збянтэжыла міліцыянта. Назаляць маладым ён не стаў, а сцяг так і правісеў цэлы дзень, пакуль гуло вяселле.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Жанчыны пасадзілі дрэва надзеі

**У мінулую пятніцу, 7 сакавіка, у Мінску на плошчы Свабоды адбыўся «жаночы мітынг».**

У акцыі ўзялі ўдзел прадстаўніцы некалькіх апазіцыйных жаночых арганізацый Беларусі — Беларускай арганізацыі працоўных жанчын, «Беларускай жаночай супольнасці», дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля», Беларускага народнага фронту і Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Побач з іншымі трымалі запаленыя свечкі дэпутат Вярхоўнага Савета Людміла Гразнова, актывістка Свабодных прафсаюзаў Марыя Аліева, адна з кіраўнікоў фонду «Дзецям Чарнобыля» Ірына Грушавая, жонка вядомага палітыка Юрыя Хадыкі Валянціна Зімніцкая, жонка экс-прэм'ера Беларусі Юлія Чыгір. На мітынгу кабеты гаварылі аб нездаровай палітычнай атмасферы ў краіне, ушчамленні палітычных правоў і свабодаў, наступствах чарнобыльскай бяды. На плакатах і транспарантах было напісана: *«Мы супраць насілля! Не любіць сваіх блізкіх — насілле. Прымусіць народ галадаць — насілле. Не супраціўляцца насіллю — насілле».*

Завяршыўся мітынг у скверы на плошчы Свабоды, дзе яго ўдзельніцы пасадзілі сімвалічнае дрэва надзеі і рассеялі жытнія зярняты.

*БелаПАН*

## Яшчэ адзін паплечнік сыходзіць у адстаўку

**Першы намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Сазонаў папрасіўся ў адстаўку.**

У інтэрв'ю «Белорусской газете» ён падкрэсліў, што пакідае пасаду па ўласным жаданні (з прычыны нездавальняльнага стану здароўя). Нагадаем, што М.Сазонаў прараваўся на палітычны Алімп разам з Лукашэнкам — спачатку ён працаваў з Рыгоравічам у славутай антыкарупцыйнай камісіі, а потым быў адным з кіраўнікоў перадвыбарчага штаба Лукашэнкі. Пасля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах у адміністрацыю прыйшоў працаваць і малодшы брат Сазонава (Аляксандр), які цяпер узначальвае міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый.

**М.Г.**

## СЁННЯ

## Расійскі дэсант

**У Мінску 11–12 сакавіка будзе праходзіць трэцяя сесія парламенцкага сходу Супольнасці Беларусі і Расіі.**

Для ўдзела ў сесіі прыязджае шматлікая дэлегацыя расійскіх дэпутатаў, у тым ліку такія вядомыя палітыкі, як Генадзь Селязнёў, Ягор Строеў, Сяргей Бабурын, Юрый Лужкоў ды іншыя. Сустрэцца з імі плануе і прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які збіраецца выступіць на сесіі са спецыяльнай прамовай на любімую ім тэму.

Але спачатку сесія зоймецца арганізацыйнымі пытаннямі і перш за ўсё абярэ новага старшыню парламенцкага сходу (замест Сямёна Шарэцкага, якога, дарэчы, нават не запрасілі на пасяджэнне). Як заўсёды, не абыдзецца без чарговага абмеркавання перспектываў Супольніцтва Беларусі і Расіі, а ў якасці прыемнага дадатку будзе зацверджаны план мерапрыемстваў па святкаванні гадавіны гэтага ўтварэння.

Тым часам для мэра Масквы Юрыя Лужкова рыхтуецца асабістая праграма: у прыватнасці, яго прымуць на маторным заводзе, і, магчыма, на прадпрыемстве «Белкамунмаш», дзе выпрабляюцца мінскія тралейбусы. Уладам беларускай сталіцы вельмі хочацца, каб урад Масквы купіў у нас 100 тралейбусаў, на якія пакуль мала хто спакушаецца.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Кандыдаты ў бежанцы

*Па ацэнках міжнародных экспертаў, у Беларусі знаходзіцца каля 30 тыс. бежанцаў*

Як паведамілі ў беларускім прадстаўніцтве Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў (УВКБ ААН), прыкладна 80—90% бежанцаў у нашай краіне — былыя жыхары Афганістана, астатнія 10—20% прыпадаюць у асноўным на долю грамадзянаў Руанды, Эфіопіі і Таджыкістана.

Беларускі офіс УВКБ ААН адчыніўся ў 1995 г. З таго часу гэтая структура дапамагала беларускім уладам у арганізацыі службы, якая узяла б на сябе вызначэнне статуса бежанца, і з лютага 1996 г. Камітэт па міграцыі пачаў прыём заяваў ад замежных грамадзянаў на атрыманне статуса бежанца ў Беларусі. Другая задача беларускай місіі УВКБ ААН, па сведчанні яе кіраўніка Б.Берэсана, заключаецца ў клопаце аб людзях, якія падалі заяву на атрыманне статуса бежанца. З імі праводзяць растлумачальныя гутаркі, «кандыдаты ў бежанцы» атрымліваюць своеасаблівыя даведкі. Акрамя таго, офіс УВКБ ААН у Мінску аказвае дапамогу (каля 30 долараў у месяц) праз Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа, аднак толькі тым, хто мае асаблівую патрэбу, — жанчынам, старым, дзецям. Сп.Берэсан паведаміў таксама, што ў задачы місіі ўваходзіць і дапамога тым бежанцам, якія хочуць добраахвотна вярнуцца на радзіму.

Справамі бежанцаў будзе займацца і пастаяннае прадстаўніцтва Міжнароднай арганізацыі па мігрантах (МАМ), якое нядаўна адчынілася ў Мінску. Як паведаміў кіраўнік беларускай філіі МАМ Яры Пір'ёла, прадстаўніцтва МАМ у Беларусі мае на мэце цеснае супрацоўніцтва з беларускімі уладамі — Дзяржаўным камітэтам пагранічных войскаў, міністэрствам унутраных справаў, міністэрствам працы і іншымі структурамі — у вырашэнні міграцыйных праблемаў. Кіраўнік бюро МАМ спадзяецца, што яго арганізацыя зможа дапамагчы беларускім міграцыйным службам ва ўдасканаленні міграцыйнай палітыкі і заканадаўства, а таксама возьме ўдзел у стварэнні адпаведнай камп'ютэрнай інфармацыйнай сістэмы. Я.Пір'ёла паведаміў, што беларускі офіс МАМ ужо наладзіў курсы англійскай мовы для памежнікаў і работнікаў дзяржаўных інфармацыйных службаў.

Застаецца спадзявацца, што яшчэ якая-небудзь міжнародная структура арганізуе курсы пушту або дары — моваў, на якіх гавораць афганскія бежанцы.

*БелаПАН*

## 50 долараў могуць быць фальшывыя

**Нацыянальны банк распаўсюдзіў інфармацыйнае паведамленне *«Аб фальшывай банкноце класа «супер» вартасцю 50 долараў ЗША»*.**

У дакуменце гаворыцца, што ў апошні час у абароце з'явіліся так званыя «супердолары». У вытворчасці гэтых банкнотаў поўнасцю вытрымліваецца тэхналагічны працэс, выкарыстоўваюцца ў асноўным тыя ж матэрыялы і узнаўляюцца практычна ўсе прадугледжаныя элементы аховы. Большасцю сучасных дэтэктараў валют такія падробкі не выяўляюцца.

На працягу доўгага часу, гаворыцца ў паведамленні Нацбанка, тэрмін «супердолары» вызначаў фальшывыя грашовыя білеты ЗША вартасцю 100 долараў. Аднак нядаўна на тэрыторыі Расіі зафіксаваны абарот фальшывых банкнотаў у 50 долараў ЗША з абазначанымі гадамі выпуску — 1990 і 1993. Гэтыя фальшывыя купюры адносяцца да класа «суперпадробак»: візуальна і на дотык яны практычна не адрозніваюцца ад сапраўдных долараў. У дакуменце Нацбанка падкрэсліваецца, што фальшывыя банкноты такога класа можна выявіць толькі пры старанным кантролі па дробных дэфектах друкаваных формаў.

Такім чынам, выявіць адрозненні вельмі няпроста. На думку экспертаў, цяпер банкам давядзецца ў дадатак да дэтэктараў валют набываць дакладныя мікраскопы. А грамадзянам застаецца толькі парэкамендаваць адно: асцерагайцеся 50-доларавых купюраў і не набывайце валюту ў выпадковых людзей.

*БелаПАН*

## Антановіч святкуе незалежнасць Літвы

**Міністр замежных справаў Іван Антановіч знаходзіцца з рабочым візітам у Літве.**

Учора ў праграме візіту былі сустрэчы з міністрам замежных справаў Літвы Альгірдасам Саўдаргасам і з першым намеснікам старшыні Сейма Літвы Андрусам Кубіліюсам. Акрамя таго, Іван Антановіч асабіста праверыў, як працуе пасольства Рэспублікі Беларусь у Вільні і яго консульскі аддзел.

Сёння, 11 сакавіка, І.Антановіч мае ўзяць удзел ва ўрачыстым пасяджэнні Сейма з нагоды дзяржаўнага свята Літвы — Дня аднаўлення незалежнасці Літоўскай дзяржавы, а таксама ў цырымоніі паднясця дзяржаўнага сцяга на плошчы Незалежнасці ў Вільні.

І.Антановіч паехаў у Літву, каб абмеркаваць пытанні, звязаныя з дэмаркацыяй літоўска-беларускай мяжы, далучэннем да Венскай канвенцыі аб адказнасці на нанясенне ядзернага ўрону і шэраг іншых. Беларускае знешнепалітычнае ведамства рыхтуецца таксама запрасіць з візітам у нашую краіну прэзідэнта Літвы Альгірдаса Бразаўскаса.

*БелаПАН*

# Права человека в Беларуси: оценки Вашингтона

*Доклад Государственного департамента США*

**Информационная служба посольства Соединенных Штатов Америки передала в прессу Доклад Госдепартамента США о положении с правами человека в 1996 г. в Беларуси. Такие аналитические доклады о правах человека Госдепартамент США выпускает ежегодно практически для всех стран мира. Учитывая важность и актуальность документа, СВАБОДА решила опубликовать его полностью.**

Государственное устройство Беларуси включает исполнительную, законодательную и судебную ветви, однако к концу года президент сосредоточил в своих руках всю полноту власти. С момента избрания президентом — первым в истории Беларуси — в июле 1994 г. Александр Лукашенко неуклонно расширял полномочия исполнительной власти. Президент наделен правом назначать членов Совета министров и всех руководителей исполнительной власти в шести областях республики. Президентские указы имеют силу законов, за теоретическим исключением случаев, предусмотренных Конституцией и решениями парламента. В январе 1995 г. был избран новый парламент, однако исполнение им своих конституционных обязанностей было почти полностью заблокировано президентом, который после неоднозначно воспринятого конституционного референдума в ноябре распустил парламент. Комитет министров иностранных дел Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе вынес заключение, что условия проведения референдума лишают его «всякой законности». Пределы полномочий исполнительной власти президентом неоднократно нарушались. Говорить о независимости судебной власти не приходится.

Комитет государственной безопасности (КГБ) и Министерство внутренних дел (МВД), подотчетные президенту, остаются основными институтами охраны правопорядка и полицейских функций. Под руководством президента Лукашенко были значительно расширены полномочия президентской охраны, созданной для обеспечения безопасности высших должностных лиц, которой использовалась сила против политических оппонентов президента при полном отсутствии судебного и законодательного контроля. Сотрудниками президентской охраны совершены многочисленные нарушения прав человека.

Положение с соблюдением властями прав человека значительно ухудшилось в результате возрождения президентом советских авторитарных методов управления в Беларуси. Государство жестко ограничивает право граждан на смену правительства. Результаты ноябрьского референдума по конституционному устройству, в нелегитимности которого у международного сообщества практически нет сомнений, Лукашенко использовал для закрепления и расширения своих полномочий, роспуска парламента (Верховного Совета) и формирования нового законодательного органа, подчиненного его влиянию. Референдум, насыщенный нарушениями демократических норм, позволил ему продлить срок своего пребывания на посту на два года и подчинить себе судебную власть. Референдум по вопросам конституционной реформы проводился в условиях политического подавления средств массовой информации и контроля над ними со стороны государства. В результате контроля над СМИ избиратели не смогли узнать о взглядах оппозиции, среди которой члены парламента и Конституционного суда. Судебная власть несамостоятельна и, по большому счету, не может служить фактором сдерживания исполнительной власти.

Выросли масштабы злоупотреблений исполнительной властью своей монополией на аппарат сил безопасности и средства массовой информации. По имеющимся сообщениям, регулярно происходят избиения сотрудниками органов охраны правопорядка задержанных и заключенных. Имели место случаи необоснованного ареста и задержания граждан. Службы безопасности осуществляли пристальный надзор за действиями представителей оппозиции и других групп населения. Подразделениями войск МВД использовалась сила для разгона политических демонстраций, а после одной из акций протеста проводились массовые аресты. Во многих воинских подразделениях продолжалась практика жестокого обращения с военнослужащими. Условия тюремного содержания плохие. Длительные задержания и задержки с судебным разбирательством являются обычным делом. Ужесточены ограничения на свободу слова, печати и мирных собраний. Хотя в целом свобода собраний властями соблюдалась, имели место достаточно серьезные нарушения в этом плане. Продолжались ограничения на свободу вероисповедания и передвижения. Серьезной проблемой оставались дискриминация и насилие над женщинами в быту. Правительством были резко урезаны права рабочих на организацию и коллективную защиту их интересов.

## Уважение прав личности

В Конституцию 1994 г. и новую конституцию, принятую в результате ноябрьского референдума, заложена неприкосновенность личности и, в частности, запрет на пытки, жестокое, бесчеловечное или унижающее человека обращение. Однако, по имеющимся сообщениям, силы охраны правопорядка и тюремная охрана регулярно избивают задержанных и заключенных. Правоохранительным органам и тюремной охране дано право применять меры физического воздействия в отношении задержанных и заключенных, если последние оказывают сопротивление, не подчиняются требованиям тюремной администрации или «совершают злостные нарушения тюремного режима». Источники в правоохранительных органах и подвергавшиеся задержанию сообщают, что следователи применяли меры физического воздействия к задержанным с целью добиться признания. И хотя такие действия противозаконны, власти в очень редких случаях наказывают за такие злоупотребления.

Условия тюремного содержания очень тяжелые и характеризуются переполненностью камер, нехваткой продуктов питания и лекарственных препаратов и распространением таких болезней, как туберкулез и сифилис. Условия содержания в тюремных госпиталях не лучше.

Наблюдатели от организаций по защите прав человека не получали должного доступа к заключенным.

## Необоснованный арест, задержание и ссылка

Правовые нормы советских времен в отношении задержания используются в настоящее время в Беларуси почти без изменений. Имели место случаи необоснованного ареста и задержания граждан правоохранительными органами. Уголовно-процессуальный кодекс предусматривает возможность задержания подозреваемого в совершении преступления в течение 3 дней без ордера. По решению местных органов прокуратуры срок задержания до суда может быть продлен до 3 месяцев. Областные прокуратуры и республиканская прокуратура могут потребовать продления этого срока не более чем до 18 месяцев. По закону граждане могут обжаловать свой арест в суде или прокуратуре. По сведениям из судебных органов, почти 90 процентов всех арестов в настоящее время оспариваются.

По закону судья обязан начать судебное слушание в течение трех недель с момента предъявления обвинения. Однако перегруженная судебная система часто не в состоянии соблюсти это требование, и до того момента, когда обвиняемый предстанет перед судом, проходят месяцы.

Задержанным может предоставляться неограниченный доступ к услугам адвокатов, и, в соответствии с Конституцией 1994 г., адвокат может быть назначен за счет казны, если обвиняемый не в состоянии оплатить его услуги. Однако при рассмотрении «мелких» дел бесплатное предоставление адвоката не предусматривается, и обвиняемые, не имевшие возможности воспользоваться правом на защиту, приговаривались судом к пятилетним срокам.

Как обвиняемые, так и адвокаты сообщают об ограничениях на встречи; следователи имеют право вообще наложить на них запрет. Некоторые задерживавшиеся утверждали, что следователи вынуждали их подписывать заявления с отказом от адвоката на время следствия. Правительство не выделило значительной части средств, предназначавшихся для оплаты труда адвокатов, чьи гонорары слишком высоки для многих обвиняемых. В законе не закреплено право на незамедлительное вынесение судом решения о законности или незаконности задержания. В силу отсутствия в законе механизма освобождения под залог и эффективного судебного контроля за действиями прокуратуры досудебное задержание в ряде случаев длилось свыше 3 лет, причем иногда содержавшийся под стражей человек даже не знал, какое обвинение ему предъявляется. Двое из лидеров оппозиции, задержанные в связи с акцией протеста 26 апреля 1996 г., были отпущены только после месячной голодовки, угрожавшей их жизни, и обязательства ожидать суда.

Конституционное право на адвоката и требование о предъявлении задержанному обвинения зачастую игнорируются. Лицам, которые давали в следствии свидетельские показания и выступали с ними на уголовных процессах, привлекались впоследствии на основании своих показаний к ответственности.

26 апреля член парламента от оппозиции Павел Знавец был задержан в результате налета на штаб-квартиру Белорусского народного фронта и более 24 часов содержался в полной изоляции, несмотря на депутатскую неприкосновенность. Правоохранительные органы отказались ответить на парламентские запросы относительно обстоятельств этого задержания. Верховным Советом для расследования этого дела была создана специальная комиссия, которая вынесла заключение, что, являясь депутатом, Знавец не мог быть задержан. На этом инцидент был завершен.

Задержанные в связи с антиправительственным шествием 26 апреля украинские националисты подверглись публичному осуждению на национальном телевидении еще до начала суда. Журналист, государственный служащий, учинил настоящий допрос задержанных, и трансляция его официальным телевидением стала частью кампании, проводившейся властями для оправдания чрезвычайно жесткой реакции сил охраны правопорядка на протест митингующих.

Вечером 26 апреля, спустя несколько часов после окончания антиправительственной акции «Чернобыльский путь», милицией на улицах Минска были схвачены группы молодежи. Анатолий Лисун, глухонемой от рождения, был задержан на три дня за «выкрикивание антипрезидентских лозунгов». В целом милицией было схвачено более ста человек, которые содержались в одной из тюрем в Минске и которым было отказано в консультациях с адвокатами и посещениях родственниками. Иностранные дипломаты более 30 дней не имели доступа к своим гражданам, задержанным в связи с событиями 26 апреля.

В октябре власти задержали шахтеров, которые собирались принять участие в конгрессе оппозиционных сил.

Двое из лидеров Белорусского народного фронта, сыгравшие значительную роль в организации демонстраций протеста в марте и апреле, сумели выехать из страны, несмотря на предпринятые правоохранительными органами меры к их задержанию. Обоим было предоставлено политическое убежище за рубежом.

Начиная с 1996 г., поступают сообщения о задержаниях людей неустановленными лицами и содержании их в изоляции в течение различных периодов времени. Считается, что лица, проводившие задержания, принадлежат к правительственным службам безопасности, поскольку задержания происходили во время демонстраций оппозиции.

*(Продолжение в следующем номере)*

ДЕНЬГИ

# Если у вас есть сбережения...

Не секрет, что некоторая часть населения традиционно хранит свои денежки в чулках. Другие, экономически более образованные и рисковые граждане, вкладывают свои сбережения в рублевые и валютные депозиты коммерческих банков. Однако нынешний уровень процентных ставок, учитывая увеличившуюся инфляцию, ограничивает возросшую прибыль весьма скромными цифрами.

В конце февраля было принято решение об увеличении ставки рефинансирования Национального банка (то есть процентной ставки, по которой Нацбанк кредитирует коммерческие банки, а они, добавляя к ней свой процент, — всех остальных). Однако эта мера не привела к ощутимому росту процентных ставок по депозитам. На увеличение ставки рефинансирования с 35% до 42% годовых совершенно не отреагировали крупнейшие полугосударственные банки («Белпромстройбанк», «Агропромбанк», «Белвнешэкономбанк» и др.), которые в принципе являются самыми надежными для вкладчиков, т.к. в случае проблем могут рассчитывать на государственную поддержку. Ставки этих банков по рублевым вкладам сроком на месяц остались на уровне 30–36% (т.е. 2,5–3% в месяц). В то же время некоторые небольшие банки незначительно увеличили процентные ставки, но максимальное их значение осталось неизменным. По месячным вкладам максимальная ставка, предлагаемая банками, как и месяц назад, не превышает 45% (т.е. 3,75% в месяц).

При этом следует подчеркнуть, что уровень инфляции довольно высок — 13,3% за январь и, по предварительным данным, не менее 8% за февраль. Таким образом, те, кто вкладывал в рублевые депозиты даже по максимальной ставке, за эти месяцы все равно понесли убытки.

В ближайшем будущем вряд ли стоит ожидать роста процентных ставок. С одной стороны, в правительстве и администрации президента существует очень мощное лобби, которое выступает против повышения ставки рефинансирования, с другой — банки, прежде всего крупные, вряд ли будут заинтересованы в привлечении средств от населения. Дело в том, что депозиты обходятся банкам достаточно дорого. Часть привлеченных средств необходимо резервировать в Национальном банке, да и расходы на обслуживание велики. К тому же сейчас через крупные банки пошли немалые средства на финансирование весенней посевной кампании, так что особого недостатка в деньгах они испытывать не должны.

Другое дело, что в марте возможно сокращение уровня инфляции административными методами (т.е. обыкновенным фиксированием цен), что говорит в пользу помещения денег в банк под нынешний достаточно низкий процент. Но в марте же весьма вероятным становится и рост курса доллара из-за эмиссии денег на нужды сельского хозяйства (во всяком случае, курс свободного рынка) и, вкладывая сейчас в рублевые депозиты, можно оказаться в проигрыше.

Несколько иная ситуация с депозитами в твердой валюте. Несколько последних месяцев процентные ставки по валютным вкладам постепенно снижались. Причиной этому стало прежде всего отсутствие у банков возможностей вкладывать куда-нибудь собранную у населения валюту. В результате у крупных банков процентные ставки по валютным вкладам, например на месяц, находятся на уровне 4-5% годовых, на год — 4-8% годовых. У средних и мелких, а следовательно, менее надежных банков, ставки чуть выше — до 12% годовых по месячным вкладам и до 20% по годовым.

Тем не менее весьма вероятно повышение ставок по валютным депозитам, т.к. Нацбанк отменил ограничения на выдачу кредитов в валюте предприятиям. Теперь банки могут зарабатывать на валютных кредитах, а следовательно, у них появится и больше заинтересованности в привлечении валютных ресурсов. И все же надеяться на существенное повышение валютных процентных ставок не приходится: белорусские предприятия слишком слабы, чтобы обеспечить высокую отдачу от полученного кредита.

**Алесь САДОВСКИЙ**

## «Савецкай Беларусі» адключылі электрычнасць

**Запазычанасць за электраэнергію калгасаў Жыткавіцкага раёна перавысіла 8 млрд. рублёў.**

Цікава, што самую вялікую запазычанасць маюць гаспадаркі з тыпова савецкімі назвамі — «Савецкая Беларусь», «3-ці Інтэрнацыянал», імя 22-га з'езда КПСС і «Ленінскі». Паколькі запазычанасць не пагашаецца, Жыткавіцкі энерганагляд вырашыў спыніць у гаспадарках-даўжніках падачу электраэнергіі на пілараммы і ў гаражы.

**У.В.**

## Начальнікам работа ёсць

**У Калінкавіцкім рэгіянальным цэнтры занятасці насельніцтва зарэгістравана 2.170 беспрацоўных, амаль палова беспрацоўных — 44,1% — людзі ва ўзросце да 25 гадоў.**

Цяжэй за ўсё знайсці работу тым, хто не мае ніякай спецыяльнасці — такіх 442 чалавекі. Далей у пераліку ідуць 195 вадзіцеляў аўтамабіляў, 75 кухараў, 74 прадаўцы, 65 бухгалтараў. Начальнікі розных рангаў у гэтым спісе не значацца.

**У.В.**

## Завалілі Еўропу шрубамі

**Рэчыцкі метызны завод — адзін з нямногіх у Беларусі, які нарошчвае аб'ёмы прадукцыі.**

За студзень гэтага года выпуск металічных вырабаў вырас на 70%. А ў лютым у краіны Балтыі, Германію, Аўстрыю, Бельгію, Італію і Польшчу адгружана 332 тыс. т рознага жалеззя на суму 175 тыс. долараў ЗША.

**У.В.**

*У ЭФІРЫ*

## Васіль Быкаў на Радыё Свабода

**9 сакавіка Беларуская служба Радыё Свабода пачала знаёміць слухачоў са старонкамі зборніка апавяданняў В.Быкава «Сцяна».**

Кніга павінна была выйсці яшчэ ў 1995 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», аднак па загадзе Дзяржкамдрука не была дапушчана да чытача. У перадачах Радыё Свабода ўдзельнічае рэдактар нявыдадзенага зборніка Рыгор Барадулін, гучаць каментары Васіля Быкава, аўтар чытае сваю прозу.

«Чытальная зала Свабоды» выходзіць у эфір кожныя аўторак, чацвер і нядзелю. Праграма пачынаецца а 18-й гадзіне (хвалі 41 і 49 м), 22-й (31 і 49 м) і паўтараецца а 6-й раніцы (31, 41 і 49 м).

**Р.С.**

## Мазырскі мецэнат

**Мазырскі прадпрымальнік Васкат Чабанян вось ужо другі год, як узяў пад апеку сярэднюю школу вёскі Міхалкоўская Рудня, што пад Мазыром.**

В.Чабанян поўнасцю аплочвае настаўнікам праезд да работы. Акрамя таго, ён устанавіў стыпендыі для выдатнікаў вучобы ў памеры 100 тыс. рублёў. Стымул спрацаваў: колькасць выдатнікаў за мінулы год павялічылася з 15 да 32 чалавек. У планах мецэната таксама рамонт будынка школы, набыццё музычных інструментаў, прэміі лепшым настаўнікам.

**Віктар ВАЛЕЎСКІ**

## Конскі дабрадзей

**Жыхар Брагінскага раёна Гомельскай вобласці Валеры Агафонаў атрымаў своеасаблівую прэмію «за любоў да коней».**

Рэч у тым, што два месяцы таму ў калгасе «Бальшавік» Хойніцкага раёна прапалі двое маладых коней. Спачатку думалі, што іх нехта скраў. Аднак высветлілася, што коні проста адбіліся ад калгаснага табуна і заблукалі на тэрыторыю суседняга Брагінскага раёна. Мясцовы жыхар В.Агафонаў даў ім прытулак на сваім падворку, карміў іх і даглядаў. Калі ж аб'явіліся гаспадары — дзядзька адразу ж аддаў буланых.

У якасці кампенсацыі за выдаткі калгас «Бальшавік» выпісаў В.Агафонаву прэмію — мільён рублёў.

**Уладзімір ВАЛІЦКІ**

## Хлеў пайшоў з дымам

**У райцэнтры Хойнікі Гомельскай вобласці пенсіянерка К. ледзь не спаліла дашчэнту ўласную сядзібу.**

Жанчына высыпала попел з печы проста за хлеў. Вецер раздзьмуў вуголле, і хлеў загарэўся. Спрабуючы ратаваць свойскую жывёлу, кабета атрымала моцныя апёкі рук, а два парсюкі і 30 курэй так і згарэлі ў хляве.

Агонь з хлява перакінуўся на дом жанчыны і суседскі будынак, але пажарнай камандзе ўдалося ўтаймаваць полымя.

**У.В.**

*ПРАГНОЗ*

## На Дзень Канстытуцыі чакаецца пахаладанне

**Паводле разлікаў Белгідраметцэнтра, у бліжэйшыя чатыры дні будзе сонечна, цёпла, без істотных ападкаў. Тэмпература паветра ўдзень 9—14 градусаў, уночы — блізкая да 0 °С.**

**Аднак з 15 сакавіка сіноптыкі чакаюць «актыўную хвалю холаду». Гэта значыць, што напрыканцы тыдня вернуцца маразы, а моцны вецер прынясе мокры снег.**

*ПРАЕКТЫ*

## Навучым непальцаў будаваць прыгожа!

**Нядаўна ў адміністрацыю прэзідэнта паступіў незвычайны ліст. Беларуская асацыяцыя студэнтаў-архітэктараў просіць у кіраўніка дзяржавы грошай — і не на якое-небудзь глупства, а для правядзення навуковай экспедыцыі ў Непал!**

Маршрут гэтай нетрадыцыйнай акцыі пачынаецца ў Беларусі і заканчваецца Непалам, Тыбетам і Гімалаямі, экспедыцыя запланавана на лета. Шлях мяркуецца пераадолець на трох аўтамабілях УАЗ. У камандзе дзевяць чалавек, сярод якіх студэнты архітэктурнага факультэта Беларускай політэхнічнай акадэміі, супрацоўнікі Акадэміі навук і журналіст газеты «Знамя юности». Самае галоўнае ў праграме — паказаць жыхарам Непала, Кітая і Гімалаяў вандроўную фотавыставу па культуры і архітэктуры Беларусі, слайд-фільм «Душа Беларусі» і такім чынам папулярызаваць архітэктурную школу нашай краіны і самабытную культуру Беларусі. Удзельнікі экспедыцыі гатовыя дыскутаваць з творчай моладдзю Непала і Кітая падчас вандроўкі.

Кіраўнік студэнтаў-архітэктараў Андрэй Караваянскі так пракаментаваў зварот да прэзідэнта: *«Мы хочам, каб Беларусь была вядомай краінай ва ўсім свеце, у тым ліку ў самых высокіх гарах планеты. Што ж да матэрыяльнай дапамогі ад дзяржавы, то гэта нармальная практыка, калі дзяржава спансіруе навуковыя экспедыцыі».* У гэтым выпадку ад дзяржавы патрабуецца няшмат — тры УАЗікі і 14 тысяч долараў.

Па словах А.Караваянскага, амбасада Кітая ў Беларусі падтрымала іхнюю ініцыятыву. У хуткім часе студэнты-архітэктары таксама сустрэнуцца з паслом Непала ў Расійскай Федэрацыі.

**Марына РАССАФОНАВА**

## Браслаў дасць прытулак сіротам

**У Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці плануецца будаўніцтва міжнароднага комплексу для дзяцей-сірот.**

Ініцыятарам стварэння цэнтра выступіў Міжнародны дзіцячы фонд Рэрыха. Акрамя гэтага сірочага прытулку фонд плануе таксама будаўніцтва анкалагічнага цэнтра для дзяцей, якія пацярпелі ў выніку аварыі на ЧАЭС. Беларускі ўрад ужо даў згоду на выдзяленне тэрыторыі пад названыя аб'екты. Цяпер прадстаўнікі фонду шукаюць спецыялістаў і спонсараў з ЗША і Японіі, якія дапамаглі б ажыццявіць гэтыя праекты.

*БелаПАН*

*СПОРТ*

## Формула-1: паехалі...

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА: СРЭБРА ДУХНОВАЙ**

На чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы ў закрытых памяшканнях, які адбыўся ў мінулыя выходныя ў Парыжы маленькая, але дружная беларуская зборная змагла ўзяць адзін медаль. У бегу на 800 метраў у жанчын Наталля Духнова ўступіла толькі вядомай М.Мутоле з Мазамбіка (1.59.31, новы рэкорд Беларусі) і заняла другое месца, за што была ўзнагароджана 30 тысячамі долараў прызавых (за першае месца належыць 50.000 долараў) і авацыямі публікі. Аляксандр Главацкі заняў дзевятры радок у спаборніцтвах скакуноў у даўжыню, паказаўшы вынік 7,98. А Лідзія Юркова (60 метраў з бар'ерамі) і Дзмітрый Ганчарук (штурханне ядра) у фіналы не прабіліся, выбыўшы з барацьбы ўжо ў кваліфікацыі.

Ну, а сапраўдным героем турніру стаў датчанін Уілсан Кіпкетэр, які ўжо ў кваліфікацыйным забегу змог амаль на секунду перасягнуць сусветны рэкорд на дыстанцыі 800 метраў — 1.43,96. У фінале ж ён наогул паказаў фантастычны вынік — 1.42,67 (!), падцвердзіўшы неаслабную моц старэй афрыканскага паходжання. Лідэрам жа па колькасці заваяваных медалёў стала зборная ЗША — 6 залатых, 3 срэбных і 7 бронзавых.

**МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА: ЧАТЫРЫ ЗОЛАТЫ ПАЎЛІНАЙ**

Трыумфам завяршылася выступленне беларускай каманды на традыцыйным міжнародным турніры ў Шмідэне (Германія), які праходзіў ужо ў дзесяты раз. Мінчанка Яўгенія Паўліна чатыры разы падымалася на верхнюю прыступку п'едэстала: у практыкаваннях са скакалкай (19,208 бала), булавой (19,368), стужкай (19,992) і без прадмета (19,250).

**ФУТБОЛ: ПЕЛЕ — ЗА БЕКЕНБАЎЭРА**

Легендарны бразілец Пеле рашуча падтрымлівае кандыдатуру другога вялікага футбаліста — Франца Бекенбаўэра ў якасці новага прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі футбола. Цяперашні прэзідэнт *FIFA* суайчыннік Пеле Жоао Авеланж, па словам лепшага футбаліста свету, раздае мільёны долараў у якасці падтрымкі, аднак не растлумачвае прадстаўнікам краін, «трэцяга свету», як распараджацца гэтымі грашыма. Акрамя таго, ніхто не кантралюе расходаванне сродкаў. З гэтым трэба пакончыць, неабходна распрацаваць канцэпцыі і праграмы. Бекенбаўэру гэта будзе па плячу — лічыць Пеле.

Два бліжэйшыя матчы адборачнага турніру чэмпіянату свету па футболу з камандамі Украіны (29 сакавіка) і Германіі (2 красавіка) зборная Албаніі правядзе на найтральным полі ў іспанскім горадзе Гранада — такое рашэнне было прынята на спецыяльным паседжанні выканкама *FIFA*. Звязана яно з надзвычайным становішчам у Албаніі.

**АЎТАГОНКІ: БЕЗ ФАВАРЫТАЎ**

Жывым і цікавым атрымаўся старт сезона, прыняты «фармулістамі» ў мінулую нядзелю ў аўстралійскім Мельбурне. Ужо на першым павароце сышоў з трасы фаварыт цяперашняга чэмпіянату канадзец Жак Вільнёў, не здолеў дабраць да фінішу мінулагодні чэмпіён Дэйман Хіл, які ў міжсезонне перабраўся з «Уільямса» ў «Эроўз». Хутка перакваліфікаваліся ў назіральнікаў Жан Алэзі, Ральф Шумахер (малодшы брат Міхаэля) і Эдзі Ірвін... У выніку на першую ступень п'едэстала ўзышоў Дэвід Култхард са стайні «Макларэн-Мерседэс», на 20 і 22 секунды апярэдзіўшы Міхаэля Шумахера («Ферары») і свайго аднаклубніка Міку Хакінэна.

**ГОРНЫЯ ЛЫЖЫ: ВЫБЕРГ — № 1**

Шведка Перніла Выберг заваявала Кубак свету па горналыжным спорце 1997 года. Гэта стала вядома пасля таго, як яна заняла трэцяе месца ў супергіганцкім слаламе на чарговым кубкавым этапе, які праходзіў у амерыканскім Мэмонт-Маўнцін (штат Каліфорнія).

**БАСКЕТБОЛ: ПЯЦІРАЗОВЫЯ!**

Перамогай мінскага «Гарызонта»-РШВСМ завяршыўся ў мінулую суботу жаночы чэмпіянат Беларусі па баскетболе. Пераіграўшы землякоў з «Акадэміі» ў абодвух фінальных паядынках, гадаванкі Анатоля Буяльскага забяспечылі сабе гэта званне ў пяты раз запар.

**АЛІМПІЯДА-2004: ДАЛЕЙ — БЕЗ САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА**

7 сакавіка калегія выбаршчыкаў Міжнароднага Алімпійскага камітэта вырашыла, што прэтэндаваць на арганізацыю Алімпіяды-2004 змогуць 5 з 11 гарадоў-кандыдатаў: Афіны (Грэцыя), Буэнас-Айрэс (Аргенціна), Кейптаўн (ПАР), Рым (Італія) і Стакгольм (Швецыя). Сталіца першых летніх гульняў трэцяга тысячагоддзя будзе выбрана на сесіі МАК 5 верасня з гэтай пяцёркі шчаслівчыкаў. А Санкт-Пецярбург трапіў у лік няўдачнікаў.

**Сямён ПЛОЦ**




© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 41.220
Нумар падпісаны ў друк 10.03.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 278